1 ЧЭРВЕНЯ 1999г. АЎТОРАК

# НАВІНЫ

№59 (590) КОШТ СВАБОДНЫ

**Рэдакцыя НАВІНАЎ прыносіць свае глыбокія спачуванні сем'ям, сваякам і сябрам усіх пацярпелых у трагедыі на Нямізе**

# Смертельная гроза

## Подземный переход в центре Минска стал братской могилой для пятидесяти четырех человек

Олег БЕБЕНИН

**Ужасная трагедия произошла вечером 30 мая в самом центре белорусской столицы. В страшной давке, которая возникла в подземном переходе на станции метро «Немига», погибли 54 человека, в основном молодые девушки. Около 300 человек получили увечья. Тела большинства погибших были свезены в 10-ю больницу. Родители детей, не пришедших ночевать домой, всю ночь провели в больницах города в ожидании «списков умерших», которые периодически оглашали медики. Диагноз «перелом конечностей» здесь воспринимался как наивысшее счастье.**

В окрестностях Дворца спорта на проспекте Машерова подходил к концу праздник, организованный FM-станцией «Мир» в честь собственного двухлетия. Поучаствовать в розыгрыше призов от производителя сигарет «Магна», попить пива от «Аліварыі» и послушать группу «Манго-Манго» собрались несколько тысяч минчан, преимущественно совсем еще юных. При первых раскатах грома и каплях дождя те из них, кто находился вблизи станции метро «Немига», бросились искать укрытия в подземном переходе. Навстречу, со стороны кафедрального собора в переход также двигались люди. Два потока столкнулись... Люди падали и падали под ноги все набегающей толпе. За считанные минуты в стометровый неширокий переход набилось более двух тысяч человек. Образовалась плотная живая шевелящаяся пробка. Люди, оказавшиеся рядом, говорят, что земля под ними наполнилась глухими стонами, начала сотрясаться. В этом аду выбирались наверх и выживали самые сильные. Они оставляли за собой остальных, буквально размазанных по стенам, вдавленных в пол перехода, задохнувшихся в неимоверной давке. Люди в отчаянии пытались прорваться в метро. По свидетельству очевидцев, милиционеры кричали «Выстроиться в очередь! Заходить по одному!». Погибло двое милиционеров, несколько получили серьезные ранения. Подъехавшие примерно в 20.20 наряды милиции и бригады скорой помощи начали принимать первых пострадавших. И первые трупы. Люди выбирались из перехода, выносили друзей и в изнеможении падали на газон. А из-под земли доносились крики боли тех, кто не мог выбраться из этой адской «мясорубки» самостоятельно. Реанимационные отделения трех близлежащих больниц переполнились практически сразу. Только во 2-ю больницу привезли более 60 раненых. Самое большое в Беларуси реанимационное отделение в больнице скорой помощи, рассчитанное на 25 мест, приняло в эту ночь около 100 человек. Корреспонденты НАВІНАЎ были там через два с половиной часа после трагедии, а машины с жертвами все подъезжали и подъезжали. Как рассказал один из санитаров, в первые полчаса людей привозили не только на милицейских машинах и каретах скорой помощи, но и просто на «легковушках» и микроавтобусах — по 8-10 человек в каждом. Усталые, раздраженные, нервные врачи не хотят (или просто не успевают) делиться с журналистами информацией. Вместо них это делает наряд милиции. Он пытается отобрать у фотокорреспондентов пленку, на которой запечатлены кадры работы медиков. Один из медиков, отведя нас за угол, сообщил, что в эту больницу привезли 9 трупов, а 6 человек умерло уже здесь. Основные диагнозы у прибывших — сотрясение мозга, перелом основания черепа, сдавливание грудной клетки, переломы конечностей. В конце концов нам удается заснять почерневший от удушья труп неопознанной девушки. Это ужасно — он лежит в каком-то закутке, рядом с медицинской каталкой на голом полу. Как потом выяснилось, из 54 погибших - 44 девушки в возрасте 13- 20 лет. Во второй клинической больнице милиционер в регистратуру не пустил, но сказал, что по их спискам из «двойки» увезено 25 или 28 трупов. Из 2-й больницы едем в 3-ю, что возле «Динамо». Там сообщили, что к ним приехало десять машин скорой помощи с пациентами. Они же привезли 2 трупа. «Езжайте в 9-ю или в 10-ю, — напутствует санитар, — покойников свозят туда. В 9-й больнице находится судмедэкспертиза, а в 10-й — самый большой в городе морг». Подъехав в «девятку», мы выяснили, что туда привезли 25 раненых и 10 мертвых. ■



Фота IREX/ProMedia

Около часа ночи мы вновь оказались возле больницы скорой помощи. Нам удалось стать свидетелями разгрузки милицейского грузовика, который привез страшный груз из девятой и четвертой больниц. Погибшие лежали в кузове автомашины вповалку друг на друге, как дрова. Их было более десятка.



Фота IREX/ProMedia

*Продолжение темы читайте на стр.3*

ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

### Бясплатныя візы для ветэранаў

Грамадзяне Беларусі, якія з'яўляюцца ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны і накіроўваюцца ў першай дэкадзе ліпеня на Курган Дружбы, размешчаны на месцы перасячэння мяжы трох дзяржаваў — Латвіі, Расіі і Беларусі, — на сустрэчу ветэранаў Другой сусветнай вайны, могуць аформіць бясплатныя ўязныя візы ў Латвійскую Рэспубліку згодна з прадстаўленымі загадзя спісамі ўдзельнікаў. Аб гэтым знешнепалітычнаму ведамству Беларусі паведаміла латвійскае пасольства ў Мінску.

*БелаПАН*

### Сустрэнуцца кіраўнікі ўрадаў краінаў СНД

4 чэрвеня ў Выканаўчым камітэце СНД у Мінску пройдзе паседжанне Савета кіраўнікоў урадаў дзяржаваў-удзельніцаў СНД.

*Аддзел інфармацыі*

### «Белшына» з кубкам Беларусі!

Футбалісты бабруйскай «Белшыны» сталі ўладальнікамі Кубка Беларусі-98/99. У фінальным матчы, які прайшоў вечарам 29 траўня на мінскім стадыёне «Дынама», яны перамаглі мазырскую «Славію» з лікам 5:3 (асноўны і дадатковы час — 1:1, па пенальці — 4:2). У футбалістаў «Белшыны» гэта другі падобны поспех. Упершыню яны заваявалі кубак краіны ў 1997 годзе. Акрамя іх, двойчы валодала ганаровым трафеем толькі мінскае «Дынама» (у 1992 і 1994 гадах).

*Аддзел інфармацыі*



НАДВОР'Е




**2 чэрвеня** па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, без ападкаў. Вецер няўстойлівы, слабы. Тэмпература паветра ўначы +4—+9.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**440 000**

АЎТОРАК з Кастусём ТАРАСАВЫМ

## Урокі драматургіі

На мінулым тыдні Расія, да шчыльнага саюза з якой імкнуцца наш прэзідэнт, беларускія русафілы і беларусафобы, паказала спектакль пад назвай «Фармаванне ўрада».

Аўтарам п'есы і рэжысёрам абвешчаны Барыс Ельцын, хоць, зразумела, гэткая пастаноўка не магла быць зробленая без удзелу закансіправаных райтэраў і закулісных памочнікаў. Калі б уваскрос Шэкспір, ён, безумоўна, адчуў бы шчырую зайздрасць да тэатральнага таленту расійскага прэзідэнта, да яго здольнасці вынаходзіць нечаканыя хады, рабіць з драмы фарс, уводзіць новыя ролі па ходзе пастаноўкі, злучаць класіку з вулічным тэатрам марыянетак. Мала знойдзецца людзей, якіх гэты спектакль не ўражвае. Асабліва чуллівых, трэба думаць, нават ванітуе.

Бо і папярэднія тыдні падносілі такія эфекты, што галава кружылася ад нечаканых паваротаў сюжэта. Раптам Беразоўскі страчвае пасаду, яму выстаўляюцца цяжкія абвінавачванні, гучыць пагроза пра вышук з дапамогай Інтэрпола, наіўныя гледачы жахаюцца, што адзін з самых багатых людзей Расіі пойдзе ў Бутырку на баланду з недапечаным хлебам. Будзе сядзець за кратамі ў судовай зале з кайданкамі на руках! Феерыя! Прыхільнікі сацыяльнай справядлівасці вітаюць блізкі канец ненавіснага багацея. І раптам - цішыня, быццам нічога і не было. Які Беразоўскі? Якія абвінавачванні? Хворы на радыкуліт Прымакоў проста на сцэне пазбаўляецца ролі, а на замену з'яўляецца Сцяпашын, пра якога тлумачаць, што гэта верны чалавек Ельцына. Ну, думаецца, усё, эксперыменты закончаныя, новы расійскі ўрад нарэшце пачне клапаціцца пра народы федэрацыі, новы намеснік прэм'ера прынцыповы М. Задорнаў (адначасна міністр фінансаў) будзе трымаць бюджэт чыстымі рукамі. Але такое развіццё сюжэта было б надта банальным, патрэбныя гэгі, адпаведныя густу эліты. І нейкі гэгмэн прыдумляе эфектыўны трук - міністэрскі партфель адымаецца ў Задорнава, абражаны віцэ-прэм'ер падае ў адстаўку, у Сцяпашына з'яўляецца палярны яму намеснік. Магчыма, і сам Сцяпашын пойдзе ў адстаўку, калі не захоча, каб да ягоных рук лялькавод прывязаў ніткі.

Глядзіш на гэтую гульню каля пасадаў і бюджэту, і міжволі паўстае пытанне: якую ж ролю атрымаюць беларускія зоркі ад такіх таленавітых у новастворанымі Саюзе славянскіх дзяржаваў. Хіба што такую ж эпізадычную, якую сыграў Кірыленка, а пасля яго Прымакоў? Няўжо дзеля гэтакай драбязы трэба прадаваць Расіі беларускую самастойнасць? Няўжо расійскія драматургічныя ўрокі не адвароцяць нашых палітычных артыстаў наймацца на сезон у чужы тэатр?

# Прыстрэлка

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

**У нядзелю адбыўся Сойм Беларускага Народнага Фронту «Адраджэнне».**

Сойм з'яўляўся своеасаблівай прыстрэлкай перад маючым адбыцца 25 ліпеня з'ездам БНФ, на якім высветліцца вынік супрацьстаяння дзвюх існуючых у БНФ груповак. Адна на чале з палітэмігрантам Зянонам Пазьняком, другая — з яго намеснікам Юрыем Хадыкам.

У прысланым напярэдадні факсе Зянон Пазьняк падтрымаў правядзенне паўторных выбараў прэзідэнта, але толькі пры ўмове, што будзе зняты са сваёй пасады старшыня Цэнтрвыбаркама Віктар Ганчар. Пазьняк выступіў з рэзкай крытыкай дзейнасці інстытута намеснікаў. На ягоную думку, гэты орган Фронту ператварыўся ў «нейкі дыскусійны клуб». Таксама Зянон Пазьняк выступіў з прапановай змянення сістэмы кіравання ў БНФ такім чынам, каб у Мінску ў яго быў толькі адзін намеснік.

На думку некаторых сябраў Сойма, гэта спроба ўтварыць у БНФ своеасаблівую вертыкаль. Яшчэ адной прапановай Пазьняка было зняцце з пасады намесніка ягонага галоўнага апанента Юрыя Хадыкі.

Тым не менш на Сойме былі прынятыя толькі два канкрэтныя рашэнні. Першае з іх аб тым, што БНФ будзе падаваць у мін'юст дакументы на перарэгістрацыю. Другое ж рашэнне — своеасаблівая «піка» ў бок старшыні БНФ у эміграцыі. Справа ў тым, што Зянон Пазьняк заклікаў у сваім факсе не адпраўляць сваіх прадстаўнікоў на маючыя адбыцца ў Бухарэсце 11-13 чэрвеня перамовы ўладаў і апазіцыі. Сойм жа прыняў адваротнае рашэнне і дэлегаваў на перамовы намесніка старшыні Лявона Баршчэўскага.

Вячаслаў Сіўчык насуперак Зянону Пазьняку лічыць, што зрыў выбараў быў выгадны ўладам, і мяркуе, што старшыня БНФ дапусціў вялікую памылку, зняўшы сваю кандыдатуру. Таксама спадар Сіўчык выказаў думку, што пара канчаць з сітуацыяй, якая пазбаўляе кіраўніцтва Фронту аператыўнасці дзеянняў, а менавіта, перанесці сапраўднае кіраванне арганізацыяй з эміграцыі ў Мінск.

На думку Вінцука Вячоркі, галоўным вынікам Сойма стала тое, што сябры гэтага кіруючага органа «пазбаўляюцца стэрэатыпаў і не баяцца казаць тое, што сапраўды думаюць».

Увогуле, Сойм не згладзіў, а наадварот, толькі абвастрыў сітуацыю ў буйнейшай беларускай партыі. Перад з'ездам БНФ адбудзецца яшчэ адзін Сойм у чэрвені, пасля якога канчаткова будзе бачная раскладка сілаў. ■

СУДОВЫ ПРАЦЭС

# Двойчы герою — два гады турмы

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

**Былы старшыня акцыянернага таварыства «Рассвет» Васіль Старавойтаў прызнаны вінаватым у шэрагу эканамічных злачынстваў. Судовая калегія Кіраўскага раённага суда на чале з Надзеяй Чмарай дала Старавойтаву два гады калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Па пяць гадоў атрымалі былы кіраўнік транспартнага цэха Аляксей Яўстратаў і былы начальнік рыбнай гаспадаркі «Рассвета» Алег Шапавалаў, якіх судзілі разам з Старавойтавым. У выпадку, калі прысуд уступіць у сілу, двойчы герою сацыялістычнай працы прыйдзецца сядзець за кратамі яшчэ 5 месяцаў.**

Нагадаем, легендарны старшыня «Рассвета» ўтрымліваецца ў ізалятарах з лістапада 1997 года. З лістапада мінулага года цягнуўся суд, і вось абвешчана, што віна Васіля Старавойтава і ягоных намеснікаў даказана. Дарэчы, судовае рашэнне было напісанае на 250 старонках, і толькі каб зачытаць яго, спатрэбілася два дні. Як Старавойтаў і ягоная абарона паставіліся да прысуду? Адвакатка Старавойтава Вера Страмкоўская не лічыць, што «гара нарадзіла мыш». Яна звяртае ўвагу на тое, што Старавойтаў быў апраўданы па трох артыкулах, сярод іх незаконнае захоўванне зброі, незаконнае прадпрымальніцтва, злоўжыванне ўладай і арганізацыя злачыннай групоўкі. «За Старавойтавым прызнаныя эканамічныя злачынствы, якія можна знайсці ў любога старшыні, які клапоціцца пра заробкі калгаснікаў і рэфармуе сваю гаспадарку», — заўважае Страмкоўская. На яе думку, суд мог бы ўлічыць, што Старавойтаў стары і хворы, і выпусціць яго на волю ў зале суда. Тое, што гэтага не адбылося, — паказчык палітычнай афарбоўкі працэсу. «Са Старавойтава зроблены прыклад: гэтак будзе з кожным, хто хоча быць самастойным на зямлі», — упэўненая Вера Страмкоўская.

Сам Васіль Старавойтаў пасля абвяшчэння прысуду быў вельмі разгублены. Ён сказаў журналістам, што з ім абышліся несправядліва. Легендарны старшыня разлічваў на тое, што ўлада задаволіцца той ганьбай, якую ён перажыў, калі сядзеў у клетцы, але памыліўся. Яму прыйдзецца яшчэ прайсці і «круг пекла» пад назвай турма. Тым не менш Старавойтаў не панікуе. Ён заявіў, што будзе абскарджваць рашэнне Кіраўскага суда ў вышэйшай інстанцыі. Па звестках адваката Веры Страмкоўскай, пакуль Васіль Старавойтаў не збіраецца звяртацца да прэзідэнта з просьбай аб памілаванні. ■

ЗАМЕЖЖА

# Аджалана пачалі судзіць

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Учора ў Турцыі распачаўся судовы працэс над лідэрам Курдскай рабочай партыі Абдулой Аджаланам. За шматгадовае змаганне за незалежнасць Курдыстана і арганізацыю тэрарыстычных актаў яму пагражае смяротнае пакаранне.**

Судовы працэс распачаўся ў турме на надзвычай моцна ахоўваемай выспе Імралі ў Мармуровым моры, у 70 кіламетрах на поўдзень ад Стамбула. Абдула Аджалан – адзіны зняволены ў гэтай турме. Тэрыторыя вакол турмы аб'яўленая забароненай зонай, яе ахоўваюць узброеныя вайскоўцы. У моры курсіруюць баявыя катэры і верталёты. На ўвесь час працэсу Аджалан будзе знаходзіцца ў адмысловай шкляной камеры з броніраванымі шыбамі.

Шмат хто ў Турцыі лічыць, што Аджалан персанальна адказны за больш чым 30.000 ахвяраў у 15-гадовай барацьбе за незалежнасць Курдыстана. У краіне прайшлі дэманстрацыі, якія патрабавалі смяротнага пакарання для Аджалана, асабліва падчас дэманстрацыяў выдзяляліся сем'і тых, хто загінуў ад рук тэрарыстаў.

Адвакаты Аджалана скардзяцца, што іх не дапускалі да кліента і нават што іх збівала паліцыя. Адзін вядомы адвакат, Ахмет Зэкі Акчуоглу, выйшаў са складу каманды адвакатаў. Ён заявіў, што працэс над Аджаланам будзе несправядлівым і што ён не хоча, каб смерць курдскага лідэра была на ягоным сумленні.

Перад тым, як пракурор пачаў зачытваць 139-старонкавае абвінавачванне, Аджалан папрасіў прабачэння ў сем'яў больш чым 5 тысячаў вайскоўцаў, якія загінулі ад рук курдскіх паўстанцаў. ■



ЦЫТАТА НУМАРА

**С одной стороны, мы боремся с нечистоплотными посредниками-перекупщиками от коммерции, с другой — у себя же под боком приютили целую армию торгашей-рвачей. И это та потребительская кооперация, которая почти 80 лет подряд плечом к плечу с государством решала самые злободневные задачи.**

*Александр ЛУКАШЕНКО*
*Из выступления на XIVсъезде потребкооперации, 27 мая 1999г.*

## Прабег па мінскай кальцавой

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

У суботу «Малады Фронт» пад лозунгам «Свабоду палітвязням!» правёў прабег па мінскай кальцавой аўтамагістралі. Нягледзячы на тое, што маладафронтаўцы атрымалі дазвол з Мінгарвыканкама, трое ўдзельнікаў прабегу — Уладзімір Антонаў, Яўген Афнагель і Андрэй Сяргееў — былі абвінавачаныя ў парушэнні заканадаўства і дастаўленыя ў гарадскі аддзел міліцыі. Пазней быў затрыманы і кіроўца аўтамабіля суправаджэння Сяргей Шынкевіч, якога ў пастарунку пазбавілі правоў кіроўцы.

Нягледзячы на перашкоды, прабег на дыстанцыю 69 кіламетраў быў паспяхова даведзены да канца. ■

## Вандалы ў Віцебску

Яўген ГАЙ

Аварыйная служба мясцовага ўпраўлення газавай гаспадаркі прадухіліла выбух газу са зламанай гарэлкі Вечнага агню на плошчы Перамогі ў Віцебску. Установлена, што агонь згас выніку намеранага пашкоджання сталёвай канструкцыі гарэлкі. У Віцебску таксама бачаць сувязь паміж апошнім актам вандалізму і нядаўнім апаганьваннем капліцы мясцовага мемарыялу загінулых у Афганістане. У тым выпадку вандалаў не спыніў нават абраз Божай Маці. ■

## З прымусовай адбуксіроўкай машын разбярэцца суд

Юрый ПАЦЁМКІН, БелаПАН

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу накіравала ў Канстытуцыйны суд запыт аб адпаведнасці Асноўнаму закону палажэння аб парадку і ўмовах адбуксіроўкі, захоўвання і рэалізацыі транспартных сродкаў. У адпаведнасці з гэтым палажэннем, транспартныя сродкі, пакінутыя іх уладальнікамі на праезнай частцы, калі гэта перашкаджае прыбіранню вуліцаў, парушае травяное пакрыва ў зоне зялёных насаджэнняў, парушае правілы добраўпарадкавання горада, а таксама тыя, што знаходзяцца ў зоне дзеяння дарожных знакаў, якія забараняюць спыненне і стаянку, падлягаюць прымусовай адбуксіроўцы на штрафныя пляцоўкі ДАІ.

На думку дэпутатаў, гэтая пастанова супярэчыць артыкулам 23 і 44 Асноўнага закона і не адпавядае зместу артыкула 113-1 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. Прымусовая адбуксіроўка, лічаць парламентарыі, з'яўляецца не толькі «дадатковай, не прадугледжанай законам мерай адказнасці», але і «парушэннем маёмасных правоў грамадзянаў». Цяпер лёс гэтай непапулярнай у аўтааматараў пастановы сталічных уладаў павінен вырашыць Канстытуцыйны суд. ■

## Першага ліпеня — усебеларуская забастоўка

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Прыватныя прадпрымальнікі, якія гандлююць на рэчавых і харчовых рынках краіны, намераныя правесці ў першы дзень ліпеня агульнарэспубліканскі страйк з мэтай патрабаваць ад урада краіны ўпарадкавання сістэмы сертыфікацыі тавараў. Апроч таго, прадпрымальнікі патрабуюць адмяніць талонную сістэму ўліку іх гандлю падатковымі інспектарамі. Яны патрабуюць, каб адміністрацыя рынкаў устанавіла нязменную стаўку арэнды. Таксама прадпрымальнікі патрабуюць права легальна набываць валюту, не баючыся санкцыяў з боку ўладаў. ■

## За адвагу на пажары

Іван ЗАСАДА

Трох дзетак ад 1 да 3 гадоў уратаваў ад смерці ў агні дзевяцікласнік магілёўскай сярэдняй школы № 26 Ілля Шаўкуноў.

У гэты дзень дзеці засталіся ў хаце адны. Яны пачалі гуляць з запалкамі, у выніку чаго загарэўся матрац. Ілля ішоў непадалёк, калі ўбачыў дым з акна прыватнага дома і пачуў плач дзяцей. Мужны хлопец без раздумкаў кінуўся да дзвярэй, выбіў іх і вынес спужаных дзяцей на вуліцу. ■

## Пацыентаў на дыету пасадзілі кухары

Сымон ГЛАЗШТЭЙН

Праверка Магілёўскага анкалагічнага дыспансера і некаторых іншых медустановаў паказала, што ў талеркі хворых людзей не трапляла ад 30% да 50% прадуктовай нормы. Напрыклад, калі пацыентам ішлі «аблегчаныя» порцыі, у гэты ж час гатаваліся мясныя катлеты, ні ў якім меню не зафіксаваныя. На кухні чакалі сваіх гаспадароў кураняты, «лішнія» сасіскі і ялавічны фарш.

Падобныя вынікі былі зафіксаваныя і ў іншых медычных установах абласнога цэнтра. Яны засведчылі, што ўсё гэта - звычайная практыка. ■

КОНФЛИКТ

# «Теплый» прием для паломников

Вика ТУРОВА

**Крестный ход по территориям трех славянских государств, начавшийся 22 мая в честь 2000-летия христианства, похоже, до Украины и Беларуси не дойдет.**

Следом за УНА-УНСО еще одна украинская организация – всеукраинская политическая партия «Братство» – заявила о своем намерении применить силу, чтобы не пустить на украинскую землю Крестный ход, организованный Русской православной церковью по территориям России, Беларуси и Украины в честь 2000-летия христианства.

Генеральный секретарь «Братства» Дмитрий Корчинский сообщил, что партия уже подготовила две акции. В Ростовской области готовы к действиям около 3 тысяч человек, а для перехвата транспорта с паломниками в Азовском море зафрахтовано аж 2 судна. Всего в протесте готовы участвовать около 300 активистов «Братства». В тоже время Дмитрий Корчинский подчеркнул, что на территории Украины будут организованы только мирные массовые акции в рамках действующего законодательства.

Напомним, что Крестный ход начался 22 мая в Твери и планирует пройти по городам Поволжья, через украинские города Мариуполь, Севастополь, Херсон, Черкассы, Канев. 22 августа участники хода намерены прибыть в Киев. Завершится ход в середине сентября в Москве. Против прохождения Крестного хода по территории Украины ранее высказался глава Украинской православной церкви Филарет. ■

СУДОВЫ ПРАЦЭС

# Литовские коммунисты ждут приговора

Егор ИВАНОВ

**В Вильнюсе второй год подряд продолжается судебный процесс по делу о январском перевороте 1991 года. Последняя новость из зала суда — объявление перерыва на полтора месяца, после чего ожидается вынесение приговора бывшему первому секретарю компартии Литвы Бурокявичюсу и его соратникам.**

Напомним, что в 1991 году в Литве при попытке захвата власти советской армией, КГБ и компартией погибло 14 человек и сотни были ранены.

Судейская коллегия собирается уже в августе вынести приговор. В деле о заговоре и организации умышленных убийств с последним словом уже выступили четверо из шести подсудимых — Миколас Бурокявичюс, Юозас Куолялис, Станислав Мицкевич и Ляонас Барташявичюс. Подсудимые отрицают свою вину и считают судебный процесс расправой над ними.

Государственные обвинители в свою очередь предложили вынести участникам январского заговора достаточно жесткий приговор. Бывшего первого секретаря компартии Литвы Бурокявичюса они предложили приговорить к 15 годам с полной конфискацией имущества. ■

МЕРКАВАННІ

# Усё яшчэ наперадзе



Алег ДАШКЕВІЧ

У спорце ёсьць такі панятак — псыхалёгія пераможцаў. Гэтую псыхалёгію трэнэры старанна спрабуюць прышчапіць сваім выхаванцам, бо інакш няможна падрыхтаваць ня тое што чэмпіёна, але папросту больш-менш упэўненага ў сваіх сілах спартоўца. Справа гэта надзвычай тонкая, якая патрабуе трэнэрскае прафэсійнасьці і далікатнасьці дзеля стварэньня той атмасфэры, калі ў вучню спалучаюцца тры складнікі гэтае псыхалёгіі — вера, воля, прафэсійнае майстэрства. Вера ў тое, што мэта будзе дасягнутая. Воля, каб яе дасягнуць. Высокае прафэсійнае майстэрства як сродак рэалізацыі. Пры адсутнасьці хаця б аднаго складніка патрэбнага выніку не атрымаецца. Псыхалёгія пераможцаў — гэта чыньнік упэўненых у сабе людзей, якія ведаюць кошт сваім перамогам і паразам.

Як усялякая рэч, псыхалёгія пераможцаў мае адваротны бок — псыхалёгію паражэнцаў, прычым першая здабываецца карпатлівай працай і не за адзін дзень, на другую ж можна захварэць у адно імгненьне, з-за нейкай прычыны ўнутрана зламаўшыся, спалохаўшыся, а пазбавіцца гэтае хваробы вельмі цяжка.

У баксэраў існуе сындром, які мае назву — сындром шкляной сківіцы. Калі, здавалася б, моцныя байцы з выдатнымі фізічнымі дадзенымі і спартовым досьведам падаюць пры нязначным дотыку пальчаткі суперніка да іхнае сківіцы. Сындром разьвіваецца на тле адной ці некалькіх запар балючых паразаў. Прычына — няўпэўненасьць і выніклы з гэтага комплекс непаўнавартасьці, паняверка. Так і з нашым грамадзтвам, паняверка, няўпэўненасьць у сваіх сілах — беларуская хвароба.

Беларус заўжды стараецца да кагосьці прытуліцца. Адны, лісьліва ўсьміхаючыся, крычаць — вазьміце нас у Расею, мы ж рЮскія людзі, другія, далікатна намякаючы суседзям пра балцкі субстрат ці пра адзіную супольную дзяржаву і агульнае мінулае, ці пра адданасьць справе дэмакратыі, пакінуўшы нашу Эўропу, выбіраюць Эўропу іхную, і ўрэшце там апынаюцца, спрабуючы спалучыць камфорт і змаганьне, трэція сыходзяць ва ўнутраную эміграцыю. Але як адны, так другія і трэція па вялікаму жывуць бяз веры, а які дом без фундамэнту. Але як адны, так другія і трэція жывуць у разладзе з сабой і пакутуюць на адзін комплекс, комплекс чужой тэрыторыі. Гэта параза. Ставяцца да іх, у залежнасьці ад кан'юнктуры, то раздражнёна, то ласкава, але яны ведаюць кошт той ласкавасьці.

Спроба рабіць выгляд, што ўсё о'кей, каштуе дарага і толькі робіць гэты комплекс мацнейшым.

Любая тэрыторыя па-за рэальнымі межамі сёньняшняй Беларускай Дзяржавы, няхай яна сто разоў прасякнутая беларускасьцю, ператорыцца ў нішто, калі Беларуская Дзяржава зьнікне, гэта аксіёма. Праблемы беларусаў вырашаюцца ўнутры іхнай краіны і пазбаўленьне ад комплексаў адбываецца тамсама. Можна, вядома, імітаваць сваю прысутнасьць, тут, але ад таго імітацыя не перастане быць імітацыяй, комплекс непаўнавартасьці нікуды не зьнікне, а параза застанецца паразай.

Спытайце сёньня большменш дасьведчанага беларуса пра беларускія перамогі — адказ будзе, відаць, стандартны: Грунвальд, Орша, Айчынная вайна. Грунвальд і Орша даўно гісторыя, вось-вось гісторыяй зробіцца і мінулая вайна, Сьвята Перамогі стане гісторыяй у той момант, як спыніцца сэрца апошняга ветэрана. Ужо сёньня 9 мая больш нагадвае рытуальны карнавал, чым «праздник со слезами на глазах», бо вачэй тых засталося зусім няшмат.

Але нават і кожная з пералічаных перамогаў была атрыманая ў хаўрусе з кімсьці і не можа лічыцца ўласна беларускай перамогай, яе трэба дзяліць.

Гісторыя ўплывае на сучаснасьць, беларусы набываюць упэўненасьць, калі йдуць разам з кімсьці за агульную справу; калі ж задача пастаяць выключна за сябе — пачынаюцца комплексы непаўнавартасьці і сындромы шкляной сківіцы.

Калі нам паставілі гэтае таўро? Калі, не пасьпеўшы пачацца, Беларускі Кангрэс быў разагнаны п'яным камісарам? Раней ці пазьней — ужо неістотна, істотна тое, што ад таўра трэба пазбаўляцца, а пазбавіцца ад яго цяжка і балюча. Трэба атрымліваць самую цяжкую перамогу, перамогу над самім сабой, а таўро ўелася так глыбока. Параза ў палітыцы, у бізнэсе, у мастацтве.

Беларуская ўлада прайграе Ўсходу і Захаду, апазыцыя прайграе ўладзе, бізнэс прайграе чынавенству, мастацтва прайграе рэчаіснасьці, рэчаіснасьць ствараем мы самі. Дык хто вінаваты — ППРБ. маскалі, жыда-масоны?

Калега, які перабраўся зь Менска ў Вільню, раз-пораз прыязджае да нас пазмагацца, не прамінуўшы кожнага разу перад ад'ездам назад заўважыць, як там файна, як тут кепска. Мне не шкада, што ён зьязджае. Ягоныя заўвагі выклікаюць ужо не раздражненьне, а ўсьмешку. Вільня, Варшава, Масква, Прага, Нью-Ёрк – дзе яшчэ беларусам файна?

Інтэлігенцыя, якая дзесятак гадоў таму рушыла шчыльнымі радамі ў палітыку і крэсьліла на сваіх сьцягах лёзунгі — «Мы падымем гэтую краіну», знайшла сябе: альбо ў сварках між собку, альбо за мяжою, унутранай ці зьнешняй, але па традыцыі, то нэрвова, то стомлена навучае жыць. Справа, вядома не ў інтэлігенцыі, справа ў кожным прыватным чалавеку, зь якіх яна складаецца. Лёзунгі ўсё тыя ж, сьцягі іншыя. Безнадзёга. Параза.

У творах вялікага Быкава ні драбінкі прасьвету — «Сьцяна», «Ваўчыная яма», «Страх. Сьмех. Жах.» Няўжо сапраўды ў нас ваўчыная яма?

Ня хочацца ні павучаньняў з-за плоту, ні безнадзёгі, ні ваўчынае ямы. Хочацца Перамогі. Сваёй. Уласнай. Беларускай.

На парадку дня нацыі — Перамога. Нацыя стамілася без яе, нацыя яе прагне. З часоў апошняй, супольнай прайшло ўжо 55 гадоў.

Мы мусім перамагчы сябе. Мы мусім перамагчы сябе тут, на радзіме, інакш усё астатняе ня мае сэнсу. Мы мусім увайсьці ў трэцяе тысячагодзьдзе пад Нашым сьцягам, з Нашай мовай, у Нашай дзяржаве. Варта ў гэта верыць.

Ня варта хлусіць, ня трэба браць на грудзі лішняга, ня трэба падымаць краіну, падымайце сябе. Памаленьку, паціху, крок за крокам. Сказаў — зрабіў. Прыклады ёсьць. Ня ўцёк Чыгір, хоць яго некалькі разоў папярэджваў першы прэзыдэнт. Узьнік і здолеў не памерці часопіс «ARCHE», музычны «Народны альбом» трыюмфуе ў Польшчы, неўзабаве будзе Францыя, але, па сьведчаньні Касі Камоцкай, той энэргетыкі, якая ёсьць на канцэртах дома, няма нідзе, і гэта натуральна, бо тут Наша зямля.

Верацъ у перамогу талковыя гарадзенскія хлопцы. Хакейная зборная на чэмпіянаце сьвету не саступіла расейцам.

Цяжка перамагаць пад сьцягам і гербам, у якіх няма душы, яны не дапамагаюць. Гэта сымбалі чужой тэрыторыі. Зборная не перамагла, але й не саступіла.

Ня ўсё так кепска. Шалкевіч сьпявае: «Не ўцякайце, жыды. Не ўцякайце!» — ён сьпявае не пра жыдоў, жыды, склаўшы веру, волю і майстэрства, стварылі сваю дзяржаву, нам яе яшчэ трэба стварыць.

Усё яшчэ будзе. Не ўцякайце. Ад сябе, ад сваіх праблемаў, тады, усе разам здолеем не ўцячы ад праблемаў нашых. Тады здолеем пазбавіцца сындрому шкляной сківіцы і паражэнчага таўра. Тады перастанем туляцца па чужой тэрыторыі.

«Дай веры, дай і мы пераможам!» — народныя словы з «Народнага альбому». ■

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 552 Нумар падпісаны ў друк 31/05/99 (15:00) Наклад – 16.880